



# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

5 ліпеня 2019 года №27 (1262) 18+








## Якія вакансіі ў рэгіёне з'явіліся ў пачатку ліпеня

старонка 3

ISSN 1991–7155



Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



# Шукайце сваю песню

## Як пазнаць сапраўднага артыста яшчэ ў дзяцінстве і чаму залатая медалістка абрала музыку – і перамагла

старонкі 18-19

Уладальніца Гран-пры фестывалю-конкурсу «Адна зямля»-2019 Дыяна Бажко з Маладзечна. Фота Зоі КРУЦКАЙ.

## Вілейчукоў запрашаюць на барацьбу з сумнікам

ВІЛЕЙКА

Прыборку ладзіць экалагічная актывістка з Вілейкі **Ларыса Якавюк.**

Сумнік канадскі называюць захопнікам тэрыторый. Гэтыя шматгадовыя жоўтыя кветкі вырастаюць да двух метраў у вышыню.

Сумнік расце ці не ў кожным населеным пункце Беларусі на прысядзібных участках. Шмат яго і на могілках.

Карані расліны выдзяляюць рэчывы, якія перашкаджаюць росту іншых раслін. Гэта кветка – алерген. Яна дрэнна ўплывае на здароўе людзей, а рассейваецца вельмі хутка.

Калі сумнік пасяляецца на лугах, гэта мяняе структуру сенажаці. Ад расліны церпяць насякомыя, птушкі, дробныя жывёлы.

– Пакуль кветкі сумніка не зацвілі, можнаскасіць яго, каб папярэдзіць далейшае распаўсюджванне па нашай тэрыторыі, – кажа Ларыса Якавюк.

Па яе словах, шмат сумніка расце ў цэнтры Вілейкі – на гарадскіх могілках.

Таму ў суботу, 6 ліпеня, запрашаюць на барацьбу з сумнікам.

Сустрэча – у 10:00 на старых гарадскіх могілках (вуліца 1 Мая), каля цэнтральнага ўвахода.

З сабой узяць кухонны нож. Пальчаткі раздадуць на месцы.

Тэлефон для даведак: (8-029) 3355708.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Ветэранам вайны ўручылі юбілейныя медалі

СМАРГОНЬ

Да 75-годдзя вызвалення Беларусі ветэраны і ўдзельнікі Другой сусветнай, былыя вязні канцлагераў атрымалі юбілейныя медалі.

На Смаргоншчыне ваенкам **Леанард Гружэўскі** і спецыяліст УТЦСАН «Цёплы дом» **Алена Воўк** наведалі былых вязняў **Валянціну Шэметаву**, **Соф'ю Руткоўскую**, **Марыю Плахотнікаву**, **Івана Ромаша**, ветэранаў вайны **Генадзя Новіка** і **Мікалая Кабаку**, працаўніцу тылу **Марыю Мучкаеву**.

Медалі «75 год вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў» засталіся сярод іншых узнагарод у скарбонках ветэранаў. З кожным юбілеем такіх узнагарод выпускаецца ўсё менш і менш.

**Паводле shliah.by.**

## Літва закупляе таблеткі з ёдам на выпадак аварыі на Беларускай АЭС

АСТРАВЕЦ

У Літве выратавальнікі распавялі, што рабіць пры аварыі на БелАЭС.

Тут абмеркавалі гатоўнасць краіны да магчымай ядзернай або радыелагічнай аварыі на Беларускай АЭС. Ратавальнікі распавялі жыхарам, што трэба зрабіць у першую чаргу, а ў Міністэрстве аховы здароўя паведамілі, што закупляюць таблеткі з утрыманнем ёду.

Ратавальнікі заявілі, што жыхары, даведаўшыся пра аварыю на АЭС, павінны заставацца ў памяшканні. Ім могуць паведаміць пра здарэнне з дапамогай сірэны, СМС або па радыё і тэлебачанні.

– Атрымаўшы паведамленне, трэба будзе зайсці ў памяшканне, заставацца там і чакаць інфармацыі, – заявіў начальнік упраўлення грамадзянскай бяспекі Дэпартамента пажарнай бяспекі і выратавання **Эдгарас Гяда**.

Намеснік міністра аховы здароўя Літвы **Альгірдас Шэшэльгіс** распавёў, што краіна на выпадак аварыі на АЭС закупляе прэпараты ёду.

«Закупляюцца чатыры мільёны таблетак з утрыманнем ёду, якія засцерагаюць ад радыяцыі шчытападобную залозу. У першую чаргу імі будуць забяспечаныя жыхары ў 30-кіламетровай зоне ад ядзернага аб'екта», – сказаў ён.

Па яго словах, прэпараты закупяць сёлета. Потым людзям растлумачаць, калі неабходна прымаць гэтыя таблеткі, а таксама ўручаць іх. Таблеткамі таксама маюць намер забяспечыць і жыхароў іншых рэгіёнаў.

Нагадаем, Літва выступае катэгарычна супраць БелАЭС, якая будуецца ў Астраўцы ў 50 кіламетрах ад Вільні. Літва называе станцыю небяспечнай і сцвярджае, што Мінск не схільны прытрымлівацца міжнародных патрабаванняў у сферы ядзернай энергетыкі.

Літоўскі парламент абвясціў БелАЭС пагрозай нацыянальнай бяспекі. У Вільні заявілі, што не прапусцяць у іншыя краіны праз свае сеткі электраэнергію з БелАЭС.

У Беларусі адзначаюць, што прэтэнзіі Літвы ляжаць у палітычнай плоскасці. У Мінску не раз падкрэслівалі, што бяспека АЭС будзе забяспечана ў адпаведнасці з самымі высокімі стандартамі.

**Паводле delfi.lt.**




Фота забяспечана Аксанай ЧЫЖЫКАВАЙ-КУЗЬМІНАЙ.

Гэтага шчанюка, як і астатніх, уладкаваць не атрымалася. Яго ўзялі на перадтрымку.

# Не зарабіць грошай, а згуртаваць таленавітую моладзь

### Як прайшоў чацверты фестываль «Энергія маладосці»

ВІЛЕЙКА

**29 чэрвеня ў Вілейцы ў чацверты раз зладзілі фестываль «Энергія маладосці».**

У межах свята спаборнічалі скейтары і самакацёры, праводзілі конкурс сабак і танцавальны марафон, працавалі розныя пляцоўкі.

На вечар запланавалі фаер-шоу, фестываль светлавых шароў і выступленне фокусніка – работніка аднаго з вілейскіх прадпрыемстваў **Паўла Радвіловіча**.

Адкрывала фестываль намеснік старшыні Вілейскага райвыканкама **Святлана Дзяруга**. Яна адзначыла, што ў Вілейцы шмат бюджэтных і пазабюджэтных сродкаў ідзе на тое, каб спрыяць здароваму ладу жыцця моладзі.

Падзякавала актывістам, якія шмат робяць для таго, каб выйграваць для горада разнастайныя гранты.

Упершыню Вілейка самастойна, без падтрымкі Мінска, ладзіла таварыскія спаборніцтвы скейтараў і самакатыстаў у скейт-парку.

У ролі вядучай упершыню выступіла арганізатар «Энергіі маладосці» **Вольга Шляпо**:

– Я не скейтар і не самакацёр. Я проста люблю моладзь, якая чымсьці захапляецца, – так пачала Вольга таварыскія спаборніцтвы ў скейт-парку.

Вольга расказала карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты», што мэтай фестывалю было і застаецца – не зарабіць грошы, а знайсці і згуртаваць таленавітую моладзь.

– Цяпер шмат розных модных плыняў у маладзевай культуры. Вось нядаўна з'явіліся самакацёры. Прыемна, што вілейская моладзь так хутка падтрымлівае ўсё прагрэсіўнае, – падсумавала Вольга.

Падчас фестывалю ў парку працавала група дапамогі бяздомным жывёлам.

– Мы збіраем корм для жывёл, а таксама грошы на іх утрыманне. Але галоўная наша задача – уладкаваць гадаванцаў, – расказала карэспандэнту валанцёр з Вілейкі **Аксана Чыжыкава-Кузьміна**.

Мы звязаліся з Аксанай пасля фестывалю і распыталі, як прайшла дабрачынная акцыя. Яна расказала, што за час фестывалю сабралі скрыню корму для катоў і сабак, а таксама сорак рублёў на іх утрыманне.



На адной з пляцовак папулярызавалі роварны рух. На фота з суполкі ў «Фэйсбуку» актывіст Яўген Івашкевіч.

А вось уладкаваць пакуль нікога не атрымалася.

Некаторых шчанюкоў узялі на перадтрымку самі валанцёры. Часовы гадаванец з'явіўся і ў Аксаны.

Жанчына адзначыла, што хацелася б крыху больш увагі да пляцоўкі. Многія наведнікі свята спяшаліся на месца правядзення конкурсу «Догшоу», што ладзілі побач. А на валанцёраў з сабакамі няшмат людзей звяртала ўвагу.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




По рэгіёне патрэбныя настаўнікі, у тым ліку з веданнем кітайскай. На фота – атрад абласнога лінгвістычнага лагера ў Маладзечне.

# Якія вакансіі па рэгіёне з'явіліся ў пачатку ліпеня

**Мы падрыхтавалі агляд вакансій па рэгіёне, якія ў пачатку ліпеня з'явіліся на сайце Дзяржаўнай службы занятасці.**

### На Маладзечаншчыне шукаюць кадры ў школы і садкі

На Маладзечаншчыне трэба некалькі педагогаў: педагог-псіхолаг у дзіцячы садок у Алёхнавічах на паўстаўкі за 225 рублёў і туды ж дэфектолаг на такіх жа ўмовах з такім жа заробкам. На стаўку ў гэты ж садок шукаюць выхавальніка з заробкам ад 500 рублёў і памочніка выхавальніка з заробкам ад 400.

У яслі-садок №7 у Маладзечне патрэбныя кіраўнік фізвыхавання і музычны кіраўнік. Абяцаюць ад 370 рублёў кожнаму. Туды ж – выхавальнік і памочнік выхавальніка. Заробкі ад 370 і ад 350 рублёў адпаведна.

На пошту ў Радашкавічах шукаюць аператара сувязі. Заробак ад 330. Паштальёну, што патрэбны ў Маладзечне, прапануюць ад 356.

У мясную краму на Старое Места запрашаюць прадаўца. Заробак – ад 550. У Маладзечанскую школу-інтэрнат па зроку – повара. Прапануюць ад 400. Кухоннаму рабочаму ў шостай гімназіі – ад 330.

### На Вілейшчыне патрэбныя работнікі ў сельскую гаспадарку

Якія вакансіі прапануюць вілейчукам? Камендант у інтэрнат – ад 415 рублёў. Чатыры вакансіі ў Вілейскім цэнтры гігіены і эпідэміялогіі. На час дэкрэтнага адпачынку тут патрэбны бухгалтар. Заробак – ад 350. Таксама доктар-спецыяліст, пажадана бактэрыёлаг. Абяцаюць ад 450. Шукаюць і двух фельчараў. Заробак – ад 350.

Шмат вакансій прапануюць сельскагаспадарчыя прадпрыемствы Вілейшчыны. У таварыства «Алая зара», што ў Ерхах, патрэбныя брыгадзір, трактарыст, кіроўца, аграном, ветфельчар, інжынеры, галоўны ветэрынарны доктар, заатэхнік. Заробкі – ад 350 да 650. Найбольш прапануюць трактарысту, найменш – ветэрынарнаму фельчару.

Яшчэ больш – ад 800 рублёў – прапануюць таму, хто пойдзе працаваць эканамістам і галоўным бухгалтарам у гаспадарку ў Чурлёнах. Туды ж возьмуць аператара па штучным асемяненні. Заробак – ад 350. За столькі ж запрашаюць інжынера-механіка і токара.

У Вілейскі райвыканкам за заробак ад 800 рублёў шукаюць намесніка начальніка аддзела арганізацыі вытворчасці.

### У Валожын – настаўнік з веданнем кітайскай, у Мядзел – повар

На Валожыншчыне вакансій, датаваных пачаткам ліпеня, няма. З апошніх – настаўнік з веданнем кітайскай мовы ў гімназію №1 ад 26 чэрвеня. Заробак – ад 375.

А на Мядзельшчыне ад першага ліпеня адна вакансія – повар у Мядзельскі вучэбна-педагагічны комплекс. Абяцаюць ад 330 рублёў.

На Астравеччыне першым ліпеня датаваныя чатыры вакансіі. Гэта намеснік галоўнага механіка на філіял прадпрыемства па вытворчасці шпалераў у вёсцы Альхоўка. Заробак ад 650 рублёў. Ад тысячы прапануюць кіроўцу аўтобуса ў астравецкім філіяле Гродзенскага аўтапарка.

Кіроўца аўтамабіля на прадпрыемстве «Астравецкая сельгастэхніка» атрымае ад 500. Столькі ж і трактарыст на гэтым прадпрыемстве.

### У Ашмяны – сырароб, у Смаргонь – доктар на дзве стаўкі

Найбольш вакансій – сорак адну – на пачатак ліпеня прапануюць на Ашмяншчыне. На сырзавод патрэбныя майстар участка, слесар-рамонтнік, прыбіральшчык, сырасол, сырароб, бухгалтар, кіроўца пагрузчыка. Найвышэйшы заробак у бухгалтара – ад 500 рублёў. У астатніх – ад 300 да 480.

Добрыя заробкі прапануюць на Ашмяншчыне тым, то пойдзе на будоўлю: тынкоўшчык, геадэзіст, муляр – ад 700, майстар, плітачнік, архітэктар – ад 800.

Ніжэйшыя заробкі ў сельскай гаспадарцы. На прадпрыемстве «Ашмянская Ясная Паляна» патрэбныя трактарыст, ветфельчар, ветэрынарны доктар, заатэхнік, аграном тэхнолаг. Заробкі – у межах 400.

Галоўнаму энергетыку на эксперыментальнай базе ў Барунах прапануюць ад 650, прарабу – ад 500.

У мясцовы Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі шукаюць доктара. Прапануюць ад 700 рублёў.

У Смаргоні патрэбныя спецыялісты ў бальніцу. Доктару, які будзе працаваць на дзве стаўкі, абяцаюць плаціць ад 780 рублёў, доктару на стаўку – ад 400, санітарцы – ад 330.

Смаргонскі агрэгатны завод чакае тэрміста, слесара, аператара станкоў, механіка ўчастка, штампоўшчыка, кіроўцу-выпрабавальніка. Слесару абяцаюць плаціць ад 750 рублёў. Заробкі іншым – у межах 500.

Цэнтр сацыяльнай абароны насельніцтва шукае сядзелку за 330 рублёў. Столькі ж прапануюць музычнаму кіраўніку ў Смаргонскім садку №8.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК. Фота аўтара.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**40**

СТОЛЬКІ РУБЛЁЎ ДЛЯ БАДЗЯЖНЫХ ЖЫВЁЛ САБРАЛІ ВІЛЕЙЧУКІ ПАДЧАС МОЛАДЗЕВАГА ФЭСТУ Ў СВАІМ ГОРАДЗЕ

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 27.06 | 4.07 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.0395 | **2.0471** |
| Еўра | 2.3164 | **2.3117** |
| Злоты, 10 | 5.4335 | **5.4560** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2437 | **3.2371** |
| Грыўня, 100 | 7.7915 | **7.8175** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **26.06** | **2.07** |
| Еўра | 2.3000/2.3250 | **2.3000/2.3200** |
| Долар ЗША | 2.0320/2.0520 | **2.0380/2.0550** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 26.06 | 2.07 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,39 | **19,80** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,65 | **3,20** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,37 | **7,37** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Карп жывы, 1 кг | – | **4,70** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,80 | **5,50** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,00 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,90 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 3,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,00 | **2,22** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,20 | **1,20** |
| Агуркі, 1 кг | 0,90 | **0,85** |
| Баклажаны, 1 кг | 2,50 | **3,00** |
| Бульба, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| Буракі, 1 кг | 1,50 | **1,40** |
| Кабачок, 1 кг | 1,20 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Морква, 1 кг | 2,00 | **1,80** |
| Лісічкі, 200 мл | 2,00 | **2,00** |
| Памідоры, 1 кг | 2,30 | **2,50** |
| Перац, 1 кг | 3,90 | **6,30** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,60 | **1,50** |
| Часнок, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 6,50 | **5,50** |
| Абрыкосы, 1 кг | 4,00 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,90 | **2,80** |
| Вінаград, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Дыня, 1 кг | 4,50 | **3,50** |
| Кавун, 1 кг | 2,00 | **1,29** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **3,90** |
| Слівы, 1 кг | 3,50 | **4,00** |
| Чарніцы, 500 мл | 2,00 | **2,50** |
| Чарэшня, 1 кг | 5,00 | **5,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,40 | **1,50** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | – | **1,50** |
| Масла, 1 кг | – | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Сутыкнуліся «Пежо» і «Мерседэс»

МАЛАДЗЕЧНА

Пра здарэнне, што адбылося ў вёсцы Плябань 22 чэрвеня, карэспандэнту расказаў дзяржаўтаінспектар **Сяргей Бартош**.

Удзень каля 14 гадзін 42-гадовы жыхар Мінска ехаў па трасе Р-58 Мінск-Маладзечна-Нарач.

У вёсцы Плябань каля дома №15 ён не вытрымаў дыстанцыю і блізка пад'ехаў да «Мерседэса», што стаяў спераду.

Калі «Мерседэс» спыніўся, «Пежо» стукнулася ў яго ззаду. За рулём «Мерседэса» быў 24-гадовы мінчанін.

Ад удару пасажырка «Пежо» зламала руку. Кіроўцы не пацярпелі.

Па словах Сяргея Бартоша, у абедзвюх машын не было тэхагляду.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Падазраюць, што бухгалтарка скрала ў прадпрыемства амаль 13 тысяч рублёў

ВІЛЕЙКА

Пасля праверкі АБЭП фінансавай дзейнасці аднаго адкрытага акцыянернага таварыства ў Лагойскім раёне на 48-гадовую бухгалтарку, жыхарку Вілейшчыны, завялі крымінальную справу, распавяла карэспандэнту афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

Яе абвінавачваюць у крадзяжы грошай шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі.

Па дадзеных следства, падазраваная ад ліпеня 2017 года да студзеня 2019 года працавала галоўным бухгалтарам на сельскагаспадарчым прадпрыемстве ў Лагойскім раёне.

З усіх супрацоўнікаў толькі ў яе быў электронны ключ для аперацый, звязаных з пералікам заробку на рахункі работнікаў.

Акрамя фактычнай штомесячнай зарплаты, якую жанчына пералічвала на свой бягучы рахунак, яна дадаткова перакладала грошы яшчэ на адзін карт-рахунак, адкрыты ёю ў іншым банку.

Па наяўных звестках, яна выкрала каля 13 тысяч рублёў, якія належаць прадпрыемству.

Дзеянні падазраванай кваліфікаваныя як крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, здзейснены ў буйным памеры.

На пачатковай стадыі расследавання прынятыя меры да добраахвотнай кампенсацыі прычыненай падазраванай шкоды. Да яе ўжытая мера працэсуальнага прымусу – абавязацельства аб яўцы.

У рамках следчых і працэсуальных дзеянняў праводзяцца допыты, вывучаюць канфіскаваныя дакументы аб дзейнасці прадпрыемства, а таксама ўсталёўваюцца прычыны і ўмовы, якія спрыялі незаконным дзеяннем.

Канчатковую прававую ацэнку дзеянням жанчыны дадуць па выніках расследавання.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Мужчына ўваліўся ў возера Свір і патануў

МЯДЗЕЛЬ

Здарэнне адбылося 14 чэрвеня ў вёсцы Старлыгі на Мядзельшчыне.

На возеры Свір адпачывала кампанія. Выпівалі.

У нейкі момант мужчына, 51-гадовы мясцовы жыхар, пайшоў да возера і зваліўся ў ваду.

Знаёмыя, што разам адпачывалі, змаглі дастаць яго. Аднак было ўжо позна. Мужчына памёр.

Пра гэта карэспандэнту расказаў начальнік Мядзельскай выратавальнай станцыі **Дзмітры Дамшэль**.

Па словах Дзмітрыя Леанідавіча, на сёння гэта адзінае здарэнне на Мядзельшчыне за сезон. А ўвогуле па Беларусі колькасць патапленняў расце.

Па словах начальніка, 40% людзей тонуць у стане алкагольнага ап'янення.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Здарылася аварыя з удзелам цяжарнай

МАЛАДЗЕЧНА

ДТЗ адбылося 21 чэрвеня каля сямі гадзін вечара.

44-гадовы маладзечанец на «Паршэ-Кайен» ехаў па вуліцы Шаранговіча ў накірунку вуліцы Заслонава.

Паварочваючы на Заслонава, ён не справіўся з кіраваннем і выехаў на сустрэчку. Тут ён сутыкнуўся з машынай «Мазда 6», распавёў карэспандэнту дзяржаўтаінспектар ДАІ Маладзечна **Сяргей Бартош**.

32-гадовая жанчына-кіроўца «Мазды 6» – жыхарка Маладзечна.

– Жанчына – на 27 тыдні цяжарнасці, таму яе забралі ў маладзечанскую радзільню для назірання, – дадаў Сяргей Бартош.

Аксана ЯРАШОНАК.



Дом, дзе адбылося здарэнне.

Фота забяспечана Юліяй КРУК

# На возеры знайшлі скрываўленага мужчыну

МАЛАДЗЕЧНА

**Панажоўшчынай скончылася застолле ў Маладзечанскім раёне. Падазраваную затрымалі.**

Пра скрываўленага мужчыну на возеры ў Насілаве па тэлефоне 103 расказалі відавочцы. Медыкі паведамілі пра пацыента ў дзяжурную часць Маладзечанскага РАУС.

Міліцыянеры высветлілі, што напярэдадні пацярпелы адпачываў з сябрамі ў нейкай знаёмай.

На меркаванае месца інцыдэнту, у вёску Баяры, выбылі следчыя і спецыяліст Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз.

Праваахоўнікі ўстанавілі меркаваную карціну здарэння. Аказалася, двое мужчын і жанчына прыехалі адпачыць ля вады на возера ў Насілава. Затым кампанія ўзгадала, што блізка жыве даўняя знаёмая. Візіт да яе зацягнуўся да раніцы наступнага дня.

Не абышлося без спіртнога. Паміж гаспадыняй і госцем ўзнікла сварка. Мяркуюць, падчас скандалу жанчына схапіла кухонны нож і стукнула ім мужчыну ў грудзі.

Паранены мужчына выйшаў з дома і накіраваўся да возера.

Праваахоўнікі аглядзелі месца здарэння. Тут яны знайшлі і канфіскавалі кухонны нож.

Прызначылі экспертызы.

Спецыялісты высветлілі асобу падазраванай. У стане моцнага алкагольнага ап'янення беспрацоўную 35-гадовую жанчыну затрымалі па месцы жыхарства.

Патлумачыць, што падштурхнула яе да ўчынку, фігурантка не змагла.

У дзеяннях грамадзянкі ўгледжаныя прыкметы складу злачынства, прадугледжанага ч. 1 арт. 147 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь "Наўмысным прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання".

За п'яны ўчынак і яго наступствы фігурантцы пагражае да васьмі гадоў пазбаўлення волі, паведаміла афіцыйны прадстаўнік Маладзечанскага РАУС **Юлія Крук**.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Знайшлі снарад Другой сусветнай

МАЛАДЗЕЧНА

Снарад часоў Другой сусветнай вайны знайшла ў сябе на ўчастку жыхарка Маладзечна.

Пра знаходку жанчына паведаміла ў міліцыю. Званок на лінію «102» паступіў 26 чэрвеня каля 19 гадзін. На месца выехалі супрацоўнікі райаддзела.

34-гадовая гараджанка распавяла, што ў яе на падворку па вуліцы Заводскай займаліся ўладкаваннем каналізацыйнай сістэмы. Падчас правядзення земляных работ знайшлі прадмет, падобны да артылерыйскага снарада. Праваахоўнікі здагадку гаспадароў пацвердзілі.

Міліцыянеры ахоўвалі боепрыпас да прыезду спецыялістаў. Сапёры вайсковай часці 5448 вывезлі артэфакт у бяспечнае месца паблізу вёскі Чарчонава і знішчылі.

Паводле Маладзечанскага РАУС.

## Кіроўцу заціснула ў кузаве

АШМЯНЫ

29 чэрвеня каля гадзіны ночы ў службу 101 Ашмянскага раёна дзяжурны «хуткай дапамогі» паведаміў, што патрэбная дапамога выратавальнікаў.

ДТЗ з удзелам легкавога аўтамабіля Opel Astra адбылося ў вёсцы Каменны Лог.

44-гадовага кіроўцу заціснула элементамі кузава, якія дэфармаваліся падчас здарэння.

Выратавальнікі пры дапамозе гідраўлічнага аварыйна-выратавальнага інструмента дэблакавалі мужчыну і перадалі брыгадзе медработнікаў.

Расследаванне здарэння праводзяць супрацоўнікі ДАІ.

Паводле сайта МНС.

## Знайшоў зброю пад падлогай

МАЛАДЗЕЧНА

У дзяжурную часць Маладзечанскага РАУС прыйшоў 57-гадовы гараджанін, які добраахвотна здаў гладкаствольную зброю ТОЗ-66.

Ён растлумачыў, што знайшоў арсенал на дачы ў вёсцы Белева Маладзечанскага раёна, калі рамантаваў падлогу. У нішы ляжала зброя ў прамасленай анучы.

Мужчына лічыць, што знаходка належала бацьку, які памёр пяць гадоў таму. Ведаючы, што пагражае за незаконнае захоўванне зброі, грамадзянін вырашыў добраахвотна здаць яе ў міліцыю.

Часцей за ўсё пасля смерці ўладальніка стрэльбы застаюцца ў сваякоў.

Маладзечанскі РАУС нагадвае, што грамадзянам забаронена захоўваць альбо выкарыстоўваць знойдзеную альбо перададзеную зброю, уласнікамі якой яны не з'яўляюцца. Яе неабходна неадкладна здаць у органы ўнутраных спраў.

Маладзечанскі РАУС.

# Паважаныя пасажыры!

**Ад 08.07.2019 да 12.07.2019** у сувязі з рамонтам чыгуначнага моста на ст. Уша ў графік руху цягнікоў рэгіянальных ліній эканамкласа **на ўчастку Мінск – Маладзечна – Гудагай унесеныя істотныя змяненні.**

Падрабязную інфармацыю просім удакладняць на станцыях і прыпыначных пунктах, па тэлефоне **105,** на сайце **rw.by** да пачатку паездкі.

## Расклад руху цягнікоў рэгіянальных ліній эканамкласа 08.07.2019

| Маладзечна-Мінск | | | | Мінск-Маладзечна | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| № цягніка | Час адпраўлення | Час прыбыцця | | № цягніка | Час адпраўлення | Час прыбыцця | |
| 6102 | 04:04 | 06:00 | | 6101 | 00:45 | 02:25 | |
| 6104 | 05:11 | 07:03 | | 6103 | 04:56 | 06:29 | да Гудагая ў 06:33, прыб.07:57 |
| 6106 | 05:34 | адмена | ад ст.Алёхнавічы ў 06:13 | 7031 | 05:24 ад Мін.Паўн. | адмена | |
| 6108 | 05:37 | 07:39 | ад Гудагая в 04:12 | 6105 | 05:38 | 07:23 | |
| 6110 | 06:31 | 08:44 | | 6107 | 06:32 | 08:37 | да Гудагая ў 08:45, прыб.10:08 |
| 7032 | 07:14 | адмена | | 6109 | 07:23 | ідзе | да ст. Алёхнавічы прыб.08:41 |
| 6112 | 07:31 | 09:22 | ад Гудагая ў 05:52 | 6111 | 08:01 | 09:53 | назначаецца |
| 6114 | 09:02 | 10:59 | | 6113 | 08:48 | ідзе | да ст.Уша прыб.10:12 |
| 6116 | 09:54 | адмена | | 6115 | 09:46 | 11:40 | да ст.Смаргонь 12:52 |
| 6140 | ад Ушы 10:32 | 12:04 | назначаецца | 6117 | 11:17 | ідзе | да ст.Уша прыб.12:38 |
| 6120 | 10:42 | 12:40 | | 6119 | 12:59 | 14:44 | |
| 6122 | 13:03 | адмена | ад ст.Уша ў 13:10 | 6121 | 14:06 | 15:59 | да Гудагая 16:05 |
| 6124 | 14:48 | 16:40 | ад ст.Смаргонь у 13:50 | 6123 | 15:38 | 17:24 | |
| 6126 | 16:13 | адмена | | 6125 | 16:31 | 18:34 | да Гудагая ў 18:39, прыб.20:03 |
| 6128 | 16:31 | 18:34 | | 6127 | 17:34 | ідзе | да ст.Уша прыб.19:11 |
| 6130 | 17:28 | адмена | | 7035 | 18:11 | адмена | адпраўленне да ст.Гудагай 19:30 адмена |
| 6142 | 18:36 | 20:49 | назначаецца | | | | |
| 6132 | 19:17 | 21:07 | | 6129 | 18:18 | 20:10 | да Гудагая ў 20:34 |
| 7034 | 19:50 | адмена | | 6131 | 19:17 | ідзе | да ст.Уша прыб.20:48 |
| 6136 | 20:35 | 22:43 | | 6133 | 20:55 | 22:39 | |
| 7036 | 21:28 | адмена | | 6135 | 22:15 | 23:57 | |
| 6144 | ад Ушы 21:52 | 23:33 | назначаецца | | | | |
| 6138 | 22:22 | адмена | | | | | |
| 6146 | 22:54 | 00:43 | назначаецца | | | | |

**Гудагай-Мінск:** адпр.ад ст.Гудагай 08:33; 21:06 ідзе да ст. Маладзечна
**Маладзечна-Ліда:** адпр.ад ст.Маладзечна 08:51, прыб.на ст.Ліда 11:50
адпр.ад ст.Маладзечна 18:42, прыб.на ст.Ліда 21:43
**Маладзечна-Глыбокае:** адпр.ад ст.Маладзечна 20:20, прыб.на ст.Глыбокае 23:10
**Маладзечна-Солы:** адпр.ад ст.Маладзечна 21:26, прыб. на ст.Солы 22:15

## Расклад руху цягнікоў рэгіянальных ліній эканамкласа 09.07.2019

| Маладзечна-Мінск | | | | Мінск-Маладзечна | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| № цягніка | Час адпраўлення | Час прыбыцця | | № цягніка | Час адпраўлення | Час прыбыцця | |
| 6102 | 04:04 | 06:00 | | 6101 | 00:45 | 02:25 | |
| 6104 | 05:11 | 07:03 | | 6103 | 04:56 | 06:29 | да Гудагая ў 06:33, прыб.07:57 |
| 6106 | 05:34 | адмена | ад ст.Алёхнавічы ў 06:13 | 7031 | 05:24 с Мінск Паўночны | адмена | |
| 6108 | 05:37 | 07:34 | ад Гудагая ў 04:12 | 6105 | 05:38 | 07:44 | |
| 6110 | 06:47 | 08:44 | | 6107 | 06:32 | 08:42 | да Гудагая ў 08:45, прыб.10:08 |
| 7032 | 07:14 | адмена | | 6109 | 07:23 | ідзе | да ст. Алёхнавічы прыб.08:41 |
| 6112 | 07:46 | 09:37 | ад Гудагая ў 06:00 | 6111 | 08:01 | 09:53 | назначаецца |
| 6114 | 09:02 | 10:59 | | 6113 | 08:48 | ідзе | да ст.Уша прыб.10:12 |
| 6116 | 09:54 | адмена | | 6115 | 09:46 | 11:40 | да ст.Солы 12:06 |
| 6140 | ад Ушы 10:32 | 12:04 | назначаецца | 6117 | 11:17 | ідзе | да ст.Уша прыб.12:38 |
| 6120 | 10:42 | 12:40 | | 6119 | 12:59 | 14:44 | |
| 6122 | 13:03 | адмена | ад ст.Уша ў 13:10 | 6121 | 14:06 | 15:59 | да Гудагая 16:05 |
| 6124 | 14:48 | 16:40 | ад ст.Солы ў 13:35 | 6123 | 15:38 | 17:24 | |
| 6126 | 16:13 | адмена | | 6125 | 16:31 | 18:34 | да Гудагая ў 18:39, прыб.20:03 |
| 6128 | 16:31 | 18:34 | | 6127 | 17:34 | ідзе | да ст.Уша прыб.19:11 |
| 6130 | 17:28 | адмена | | 7035 | 18:11 | адмена | адпраўленне да ст.Гудагай 19:30 адмена |
| 6142 | 18:36 | 20:49 | назначаецца | | | | |
| 6132 | 19:17 | 21:07 | | 6129 | 18:18 | 20:10 | да Гудагая ў 20:34 |
| 7034 | 19:50 | адмена | | 6131 | 19:17 | ідзе | да ст.Уша прыб.20:48 |
| 6136 | 20:35 | 22:43 | | 6133 | 20:55 | 22:39 | |
| 7036 | 21:28 | адмена | | 6135 | 22:15 | 23:57 | |
| 6144 | ад Ушы 21:52 | 23:33 | назначаецца | | | | |
| 6138 | 22:22 | адмена | | | | | |
| 6146 | 22:54 | 00:43 | назначаецца | | | | |

**Гудагай-Мінск:** адпр.ад ст.Гудагай 08:33; 21:06 ідзе да ст. Маладзечна
**Маладзечна-Ліда:** адпр.ад ст.Маладзечна 08:51, прыб.на ст.Ліда 11:50
адпр.ад ст.Маладзечна 18:42, прыб.на ст.Ліда 21:43
**Маладзечна-Глыбокае:** адпр.ад ст.Маладзечна 20:20, прыб.на ст.Глыбокае 23:10
**Маладзечна-Солы**: адпр.ад ст.Маладзечна 21:26, прыб.на ст.Солы 22:15

## Расклад руху цягнікоў рэгіянальных ліній эканамкласа 10.07.2019

| Маладзечна-Мінск | | | | Мінск-Маладзечна | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| № цягніка | Час адпраўлення | Час прыбыцця | | № цягніка | Час адпраўлення | Час прыбыцця | |
| 6102 | 04:04 | 06:00 | | 6101 | 00:45 | 02:25 | |
| 6104 | 05:11 | 07:03 | | 6103 | 04:56 | 06:29 | да Гудагая ў 06:33, прыб.07:57 |
| 6106 | 05:34 | адмена | ад ст.Алёхнавічы ў 06:13 | 7031 | 05:24 з Мінск Паўночны | адмена | |
| 6108 | 05:37 | 07:34 | ад Гудагая ў 04:12 | 6105 | 05:38 | 07:44 | |
| 6110 | 06:47 | 08:44 | | 6107 | 06:32 | 08:42 | да Гудагая ў 08:45,прыб.10:08 |
| 7032 | 07:14 | адмена | | 6109 | 07:23 | ідзе | да ст. Алёхнавічы прыб.08:41 |
| 6112 | 07:46 | 09:37 | ад Гудагая ў 06:00 | 6111 | 08:01 | 09:53 | назначаецца |
| 6114 | 09:02 | 10:59 | | 6113 | 08:35 | ідзе | да ст.Уша прыб.10:12 |
| 6116 | 09:54 | адмена | | 6115 | 09:46 | 11:40 | до ст.Солы 12:06 |
| 6140 | ад Ушы 10:32 | 12:04 | назначаецца | 6117 | 11:17 | ідзе | да ст.Уша прыб.12:38 |
| 6120 | 10:42 | 12:40 | | 6119 | 12:59 | 14:44 | |
| 6122 | 13:03 | адмена | ад ст.Уша ў 13:10 | 6121 | 14:06 | 15:59 | да Гудагая 16:05 |
| 6124 | 14:48 | 16:40 | ад ст.Солы ў 13:35 | 6123 | 15:38 | 17:24 | |
| 6126 | 16:13 | адмена | | 6125 | 16:31 | 18:34 | да Гудагая ў 18:39,прыб.20:03 |
| 6128 | 16:31 | 18:34 | | 6127 | 17:34 | ідзе | да ст.Уша прыб.19:11 |
| 6130 | 17:28 | адмена | | 7035 | 18:11 | адмена | адпраўленне да ст.Гудагай 19:30 адмена |
| 6142 | 18:36 | 20:49 | назначаецца | | | | |
| 6132 | 19:17 | 21:07 | | 6129 | 18:18 | 20:10 | да Гудагая ў 20:34 |
| 7034 | 19:50 | адмена | | 6131 | 19:17 | ідзе | да ст.Уша прыб.20:48 |
| 6136 | 20:35 | 22:43 | | 6133 | 20:55 | 22:39 | |
| 7036 | 21:28 | адмена | | 6135 | 22:15 | 23:57 | |
| 6144 | ад Ушы 21:52 | 23:33 | назначаецца | | | | |
| 6138 | 22:22 | адмена | | | | | |
| 6146 | 22:54 | 00:43 | назначаецца | | | | |

**Гудагай-Мінск:** адпр.ад ст.Гудагай 08:33; 21:06 ідзе да ст. Маладзечна
**Маладзечна-Ліда:** адпр.ад ст.Маладзечна 08:51, прыб.на ст.Ліда 11:50
адпр.ад ст.Маладзечна 18:42, прыб.на ст.Ліда 21:43
**Маладзечна-Глыбокае:** адпр.ад ст.Маладзечна 20:20, прыб.на ст.Глыбокае 23:10
**Маладзечна-Солы:** адпр.ад ст.Маладзечна 21:26, прыб.на ст.Солы 22:15

## Расклад руху цягнікоў рэгіянальных ліній эканамкласа 11.07.2019

| Маладзечна-Мінск | | | | Мінск-Маладзечна | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| № цягніка | Час адпраўлення | Час прыбыцця | | № цягніка | Час адпраўлення | Час прыбыцця | |
| 6102 | 04:04 | 06:00 | | 6101 | 00:45 | 02:25 | |
| 6104 | 05:11 | 07:03 | | 6103 | 04:56 | 06:29 | да Гудагая ў 06:33,прыб.07:57 |
| 6106 | 05:34 | адмена | ад ст.Алёхнавічы ў 06:13 | 7031 | 05:24 з Мінск Паўночны | адмена | |
| 6108 | 05:37 | 07:34 | ад Гудагая ў 04:12 | 6105 | 05:38 | 07:44 | |
| 6110 | 06:47 | 08:44 | | 6107 | 06:32 | 08:42 | да Гудагая ў 08:45,прыб.10:08 |
| 7032 | 07:14 | адмена | | 6109 | 07:23 | ідзе | да ст. Алёхнавічы прыб.08:41 |
| 6112 | 07:46 | 09:37 | ад Гудагая ў 06:00 | 6111 | 08:01 | 09:53 | назначаецца |
| 6114 | 09:02 | 10:59 | | 6113 | 08:48 | ідзе | да ст.Алёхнавічы прыб.10:07 |
| 6116 | 09:54 | адмена | | 6115 | 09:46 | ідзе | да ст.Алёхнавічы прыб.10:53 |
| 6120 | 10:55 | адмена | ад ст.Алёхнавічы ў 11:33 | 6117 | 11:17 | ідзе | да ст.Алёхнавічы прыб.12:29 |
| 6122 | 13:03 | адмена | ад ст.Алёхнавічы ў 13:42 | 6119 | 12:59 | адмена | |
| 6124 | 14:53 | адмена | ад ст.Алёхнавічы ў 15:36 | 6121 | 14:06 | ідзе | да ст.Алёхнавічы прыб.15:18 |
| 6126 | 16:13 | адмена | | 6123 | 15:38 | ідзе | да ст.Алёхнавічы прыб.16:50 |
| 6128 | 16:47 | адмена | ад ст.Алёхнавічы ў 17:26 | 6125 | 16:31 | 18:34 | да Гудагая ў 18:39,прыб.20:03 |
| 6130 | 17:28 | 19:28 | | 6127 | 17:34 | ідзе | да ст.Уша прыб.19:11 |
| 6142 | 18:36 | 20:49 | назначаецца | 7035 | 18:11 | адмена | адпраўленне да ст.Гудагай 19:30 адмена |
| 6132 | 19:17 | 21:07 | | | | | |
| 7034 | 19:50 | адмена | | 6129 | 18:18 | 20:10 | да Гудагая ў 20:34 |
| | | | | | 19:02 | 20:33 | |
| 6136 | 20:35 | 22:43 | | 6131 | 19:17 | ідзе | да ст.Уша прыб.20:48 |
| 7036 | 21:28 | адмена | | 6133 | 20:55 | 22:39 | |
| 6144 | ад Ушы 21:52 | 23:33 | назначаецца | 6135 | 22:15 | 23:57 | |
| 6138 | 22:22 | адмена | | | | | |
| 6146 | 22:54 | 00:43 | назначаецца | | | | |
| | | | | | | | |

**Гудагай-Мінск:** адпр.ад ст.Гудагай 08:33; 21:06 ідзе да ст. Маладзечна
**Маладзечна-Ліда:** адпр.ад ст.Маладзечна 08:51, прыб.на ст.Ліда 11:50
адпр.ад ст.Маладзечна 18:42, прыб.на ст.Ліда 21:43
**Маладзечна-Глыбокае:** адпр.ад ст.Маладзечна 20:20, прыб.на ст.Глыбокае 23:10
**Маладзечна-Солы:** адпр.ад ст.Маладзечна 21:26, прыб.на ст.Солы 22:15

## Расклад руху цягнікоў рэгіянальных ліній эканамкласа 12.07.2019

| Маладзечна-Мінск | | | | Мінск-Маладзечна | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| № цягніка | Час адпраўлення | Час прыбыцця | | № цягніка | Час адпраўлення | Час прыбыцця | Прыпынкі, дні курсіравання, шляхі зносін |
| 6102 | 04:04 | 06:00 | | 6101 | 00:45 | 02:25 | |
| 6104 | 05:11 | 07:03 | | 6103 | 04:56 | 06:29 | да Гудагая ў 06:33, прыб.07:57 |
| 6106 | 05:34 | адмена | ад ст.Алёхнавічы ў 06:13 | 7031 | 05:24 з Мінск Паўночны | адмена | |
| 6108 | 05:37 | 07:39 | ад Гудагая ў 04:12 | 6105 | 05:38 | 07:23 | |
| 6110 | 06:31 | 08:44 | | 6107 | 06:32 | 08:37 | да Гудагая ў 08:45, прыб.10:08 |
| 7032 | 07:14 | адмена | | 6109 | 07:23 | ідзе | да ст. Алёхнавічы прыб.08:41 |
| 6112 | 07:31 | 09:22 | ад Гудагая ў 05:52 | 6111 | 08:01 | 09:53 | назначаецца |
| 6114 | 09:02 | 10:59 | | 6113 | 08:48 | ідзе | да ст.Уша прыб.10:12 |
| 6116 | 09:54 | адмена | | 6115 | 09:46 | 11:40 | да ст.Солы 12:06 |
| 6140 | с Уши 10:32 | 12:04 | назначаецца | 6117 | 11:17 | 13:02 | |
| 6120 | 10:42 | 12:40 | | 6119 | 12:59 | 14:44 | |
| 6122 | 13:03 | 14:54 | | 6121 | 14:06 | 15:55 | да Гудагая 16:05 |
| 6124 | 14:53 | 16:40 | ад ст.Солы ў 13:35 | 6123 | 15:38 | 17:24 | |
| 6126 | 16:13 | 18:00 | | 6125 | 16:22 | 18:06 | |
| 6128 | 16:47 | 18:34 | | 6127 | 17:34 | 19:19 | |
| 6130 | 17:28 | 19:28 | | 7035 | 18:11 | 19:26 | |
| 6132 | 19:21 | 21:07 | | | | | |
| 7034 | 19:50 | 21:08 | | 6129 | 18:18 | 20:02 | да Гудагая ў 20:34 |
| 6136 | 20:33 | 22:27 | | 6131 | 19:17 | 21:12 | |
| 7036 | 21:28 | 22:43 | | 6133 | 20:44 | 22:28 | |
| 6138 | 22:22 | 00:01 | | 6135 | 22:15 | 23:57 | |

**Гудагай-Мінск:** адпр.ад ст.Гудагай 08:33, ідзе да ст. Маладзечна
**Маладзечна-Ліда:** адпр.ад ст.Маладзечна 08:51, прыб.на ст.Ліда 11:50
адпр.ад ст.Маладзечна 18:42, прыб.на ст.Ліда 21:43
**Маладзечна-Глыбокае:** адпр.ад ст.Маладзечна 20:20, прыб.на ст.Глыбокае 23:10

УНП 600199541

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

Дзе падаць аб'яву

МАЛАДЗЕЧНА Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) 53-78-04, 8 (029) 676-84-20.
АСТРАВЕЦ вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) 2-11-40.
АШМЯНЫ вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) 7-56-17.
ВАЛОЖЫН вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) 6-13-85.
ВІЛЕЙКА вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) 2-00-83, 2-01-03; вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) 5-52-33, 5-55-39.
МЯДЗЕЛ вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) 5-52-66, 5-57-65.
СМАРГОНЬ вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) 3-30-77.


## ВІНШАВАНКА

**З ЮБІЛЕЕМ!**
**Ганне Іосіфаўне ГУДЗІЛІНАЙ з Маладзечна**

Любімая мамачка, бабуля, дарагая цешча, віншуем цябе з юбілеем!
Жадаем шмат моцы і энергіі, жаданняў і магчымасцяў. Няхай у жыцці не будзе смутку і нягод, няхай тваё сэрца не сумуе дарэмна, а ў тваім доме заўсёды будзе ўтульна і весела.

**Марына, Мікалай.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Аўдзі-80, 1983 г.в., на запчасткі. Т. (8-029) 8506435.*

• Нісан Прымера, Альмера, 1996 г.в., па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Рэно 19, дызель, па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• УАЗ-469. Т. (8-029) 3266174 Вэлком.

## СПАЧУВАННЕ

Выказваем шчырае спачуванне **Валяр'яну Ігнатавічу Кавалевічу** з прычыны напаткаўшага вялікага гора – смерці брата. Мы падтрымліваем вас у гэту цяжкую часіну і падзяляем ваш боль. Трымайцеся!

**Калектыў «Рэгіянальнай газеты».**

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 1477209.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 2016100, (8-029) 1563334.*

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага. Т. (8-029) 5677052.*

• Ваша аўто ў любым стане. Дорага. Т. (8-033) 6675566.*

• Любое аўто на хаду для сябе. Грошы адразу. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

• Фольксваген Т2, Т3, 1985 – 1991 г.в. у акуратным стане. Можна толькі кузаў. Т. (8-029) 7754806.

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Драздовіча з еўрарамонтам (рабілі для сябе з якасных матэрыялаў) і сучаснай новай мэбляй. Т. (8-029) 9263395.*

• 2-пакаёвая кватэра ў вёсцы Гарадзілава. Цана 21 000 рублёў. Т. (8-029) 9406199.*

• Гараж у ГБК-2 у Вілейцы, нядорага. Т. МТС (8-033) 6611354.*

• Дом драўляны ў в. Замошша, дом 8, Вілейскага раёна, 6х12, 72 кв. м, участак 20 сотак, святло, калодзеж, дзве печы. Т. (8-029) 2709140.*

• Дом жылы з зямельным участкам, гаспадарчымі пабудовамі ў Пастаўскім раёне, агра «Навасёлкі-Лучай». Побач прыпынак аўтобуса, прыпынак чыгункі, 5 900 рублёў. Т. (8-029) 5123180.

• Дом у вёсцы Нясцёркі на беразе вадасховішча (500 м), побач лес (200 м), гаспадарчыя пабудовы, пячное ацяпленне, па вуліцы праведзены газ. Цана дагаворная.Т. (8-033) 6915981.*

• Дом у вёсцы. Частковыя выгоды. Т. (8-0176) 723235, (8-029) 7632306.

• Участак 16 сотак на беразе ракі Нарачанка. Т. (8-025) 7908663, +370 67656098 (вайбер, вацап).*

• Участак у в. Порса. 30 сотак. Побач газ. Т. (8-029) 1214671.*

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

• Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты, гідрабур пад фундамент на палях (свайные фундаменты)). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044)5522028.*

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (свавжын) дыяметрам 32 мм, 63 мм, 90 мм і 125 мм. Работы выконваем магутнай малагабарытнай устаноўкай. Спецыялісты атэставаныя на тэрыторыі РБ. Магчымы выезд для кансультацыі. Кошт работы ад 40 рублёў м/п. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245, (8-044) 5486213.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• **МАНТАЖ-ДЭМАНТАЖ** дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛОЎВАННЕ і АБРЭЗКА** дрэў. Магчымы вываз, выкарчоўванне пнёў. Скідкі. ІП Мамай Ю.А. УНП 691895935. Т. Вэлком (8-029) 3301964, МТС (8-029) 8177983.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

• Цэгла віцебская, вогнетрывалая, пячное ліццё, кладачныя сумесі. Т. (8-029) 8351640, (8-044) 7557072.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Трактар самаробны, матаблок, прычэп і навясное абсталяванне. Т. (8-029) 6257764.*

• Трактар МТЗ-80 (з пагрузчыкам, адвалам, каўшом, віламі), да яго акучнік, культыватар, плуг. Т. (8-029) 1598893.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Каза дойная, Нядорага. Т. (8-01771) 22305, (8-033) 6008539.

• Парасяты свойскія буйной белай пароды, 6 тыдняў, па 100 рублёў. Т. (8-029) 8771541, (8-029) 2523254.

• Шчаняты баварскага горнага ганчака. Т. (8-029) 5133793, (8-029) 5159465.

**Іншае**

• Балон газавы, канапа, халадзільнік, будаўнічая тачка, торфабрыкет. Т. (8-029) 7060485.*

• Дровы колатыя, калодкі. Ваш памер. Т. (8-029) 6106061.*

• Лодка дзюралевая «Казанка», Маладзечна. Т. (8-029) 3266174 Вэлком.

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-0290 2572438.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Вадзіцель-экспедытар, міжнароднік. ІП Янковіч В.В. УНП 500006889. Т. (8-029) 1338497.*

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Брыгада дахаўшчыкоў выканае любыя віды даху; рэканструкцыя старых дахаў. Т. (8-029) 5080891.*

Першая ўзроставая група


Анастасія Ляховіч, Астравецкі раён.


Ганна Авецян, Мядзельскі раён.


Ганна Санюковіч, Валожынскі раён.


Дар'я Місюк, Маладзечанскі раён.


Кіра Паўлава, Вілейскі раён.


Кіра Чэкун, Смаргонскі раён.


Анастасія Лугін, Ашмянскі раён.


Мілана Соніч, Маладзечанскі раён.


Надзея Бандарэнка, Смаргонскі раён.


Сафія Лятко, Вілейскі раён.


Ульяна Лугін, Ашмянскі раён.

Другая ўзроставая група


Аляксандра Бабровіч, Мядзельскі раён.


Анастасія Воўк, Смаргонскі раён.


Марыя Давідовіч, Маладзечанскі раён.


Сафія Губская, Мядзельскі раён.


Святлана Гомель, Валожынскі раён.


Яна Вяль, Маладзечанскі раён.


Яна Санюковіч, Валожынскі раён.

Трэцяя ўзроставая група


Анастасія Рагінская, Ашмянскі раён.


Вікторыя Багінская, Мядзельскі раён.


Вікторыя Гнявышава, Смаргонскі раён.


Дар'я Русак, Вілейскі раён.


Дыяна Бажко, Маладзечанскі раён.


Дыяна Рагозіна, Вілейскі раён.


Лада Лінкевіч, Маладзечанскі раён.


Юлія Фомкіна, Валожынскі раён.

Чацвертая ўзроставая група


Алеся Сяргейчык, Валожынскі раён.


Антаніна Галубовіч, Маладзечанскі раён.


Валерыя Фанарук, Мядзельскі раён.


Канстанцін Яраш, Ашмянскі раён.


Наталля Чэўжык, Ашмянскі раён.


Таццяна Сарока, Вілейскі раён.


Юлія Абрамовіч, Маладзечанскі раён.


Яўген Марцюг, Вілейскі раён.


Ірына Мачнева, Смаргонскі раён.

**Фота Зоі ХРУЦКАЙ.**



Фотаздымкі з суполкі vk.com/kolaclub.

Ала Сідаровіч вядзе размову з Алінай Іванаўнай Шэўнік, мястэчка Лебедзева.

# Этнаграфічны клуб «Кола» ўпершыню правёў экспедыцыю

**Рарытэтныя ручнікі і абрусы, самы спякотны тыдзень чэрвеня і чарнакніжнікі, – першая паўнавартасная экспедыцыя адбылася ў Маладзечанскім раёне.**

Этнаграфічная экспедыцыя – гэта даследаванне, якое вядзецца з мэтай збору дадзеных аб асобных структурных кампанентах традыцыйна-бытавой культуры.

**Дзякуючы экспедыцыям набываюць, вывучаюць і захоўваюць помнікі як матэрыяльнай, так і духоўнай культуры.**

Этнаграфічны клуб «Кола» базуецца ў Маладзечне. Раней клуб не ладзіў паўнавартасныя этнаграфічныя экспедыцыі, толькі самастойныя выезды па некалькі чалавек у рэгіён Павілля: у вёску Краснае і некалькі населеных пунктаў Вілейскага раёна. Сёлета колаўцы падрыхтавалі тыднёвы экспедыцыйны тур па Маладзечанскім раёне.

### Як працуюць этнаграфічныя групы

Спачатку этнаграфічны клуб шукаў інфарматараў і населеныя пункты, дзе яны жывуць. З гэтай задачай «Колу» дапамаглі сельвыканкамы. Яны ж далі спісы людзей сталага ўзросту. Колаўцы з большага стараліся трапіць да тых, каму за 80 гадоў.

– Мы ахапілі поўдзень раёна, а таксама Мінскі і Смаргонскі накірункі. Былі ў Мароськах, Асанаве, Крыніцы, Заскавічах і іншых вёсках.

**Насамрэч, мы прапрацавалі ўсе накірункі, але ўсё ж такі засталіся белыя плямы, – распавядае сябра этнаграфічнага клуба Ганна Шакель.**

Адной з мэтаў экспедыцыі было па максімуме ахапіць Маладзечанскі раён, каб у колаўцаў былі свае наводкі на інфарматараў. Гэта трэба, каб у наступных экспедыцыях ужо былі людзі, гатовыя распавесці пра культурныя звычаі рэгіёна.

**Раніцай кожнага дня ў колаўцаў адбываліся планёркі, дзе вырашалі два моманты: складалі маршрут і фарміравалі групы.**

У першы дзень працавалі чатыры групы па два-тры чалавекі ў кожнай і дзве машыны. Тры чалавекі – самы аптымальны варыянт для этнаграфічнай групы: адзін вядзе гаворку, другі піша дзённік, а трэці заняты фота-, відэа- і аўдыёздымкай. Відэа здымалі толькі тады, калі людзі тлумачылі ці паказвалі нейкія танцы і музычныя найгрышы.

З колаўцаў працавалі тры-чатыры чалавекі, а ўсе астатнія былі валанцёрамі, якія ўбачылі абвестку і захацелі паўдзельнічаць.

**Валанцёрамі былі дасведчаныя людзі, якія раней працавалі са студэнцкім этнаграфічным таварыствам ці з архівам вуснай гісторыі, ці рабілі самастойныя выезды.**

За ўсе дні ў этнаграфічнай экспедыцыі працавалі 10 чалавек.

### Спякота і чарнакніжнік

10-16 чэрвеня ў Маладзечанскім раёне, як і па ўсёй Беларусі, было экстрэмальнае надвор'е. Самыя спякотныя дні чэрвеня этнаграфічныя групы праводзілі пад сонцам і ў дарозе.

– Калі мы выязджалі на машыне, адну групу выкідвалі ў адной вёсцы, а іншую везлі далей. У першы дзень мая група – **Дзяніс Краўчонак** з Маладзечна і **Марыя Дзмітрусік** з Мінска – выйшла на хутары. Аказалася, што там дачнікі. Шэсць вёсак запар мы прайшлі пешкі, там паўсюль жывуць дачнікі, дзе інфарматараў няма.

Колаўцы і валанцёры карысталіся папяровай картай, але не абышлося без смартфона. Аднак і сучасныя тэхналогіі не заўсёды дапамагалі знайсці жыхароў ці адпрацаваць наводку.

– Мы прыйшлі з Асанава ў Мароські – гэта напрамкі тры кіламетры, калі было дзесьці 30°C. Гэта самы спякотны дзень за ўвесь тыдзень. Шукалі інфарматараў, абышлі вёску, атрымліваецца, зрабілі кола, прайшлі ў два разы больш.

**Пасля гэтага нам расказалі пра чарнакніжніка, які там некалі жыў. Магчыма, ён не хацеў, каб мы пра яго даведаліся, і таму павёў нас колам.**

### Колаўцы атрымалі рарытэты

За сем дзён этнаграфічнай экспедыцыі клуб назбіраў шмат матэрыялу: ад песень да рэчаў – ручнікі, абрусы.

**Колаўцы атрымалі і рарытэтныя рэчы. Адной з іх стаў вясельны ручнік. Ён унікальны: на ім ёсць імя ўладальніцы – «Марыя Кавалевічава».**

Гэта форма прозвішча цяпер не ўжываецца. Экспедытары мяркуюць, што прозвішча бацькі Марыі было Кавалевіч, таму на ручніку і вышкалі Кавалевічава, калі дзяўчына была яшчэ незамужняя.

Акрамя ручніка колаўцам сустрэліся з абрусамі, якія называюць «рашоткамі». Гэта тонкая ткацкая тэхніка. Абрусы такога тыпу ў экспедыцыі знайшлі на памежжы Смаргонскага і Маладзечанскага раёнаў.



Колаўцы і валанцёры ў першы дзень экспедыцыі. Злева направа: Алесь Лапо, Ганна Шакель, Марыя Дзмітрусік, Алена Ляшкевіч, Мая Бараноўская, Ала Сідаровіч, Наста Гвоздзева, Дзяніс Краўчонак.



Ала Сідаровіч (злева) гутарыць з Марыяй Іванаўнай Палянскай, вёска Якавічы.



Трэба спяшацца, каб паспець да тых людзей, якія могуць нешта расказаць.



Рарытэтны вясельны ручнік, які атрымалі колаўцы падчас экспедыцыі.

## Што адбываецца з матэрыялам далей

Сабраныя аўдыёзапісы знаходзяцца ў архіве. Пасля экспедыцыі іх трэба расшыфраваць. Расшыфроўкай займаюцца ўсе ўдзельнікі экспедыцыі, але ёсць свае нюансы.

**Расшыфроўка часцей за ўсё праходзіць у свабодны час. У рабочы час ёй займаецца фалькларыст Воля Трубач. Валанцёры, якія ўдзельнічалі ў экспедыцыі, захаваюць сабе матэрыял і могуць яго расшыфроўваць.**

Сумесна з «Колам» у гэтай экспедыцыі працавалі спецыялісты па розных тэмах. **Мая Бараноўская** займаецца хлебам і кухняй, таму ёй прасцей расшыфроўваць тэксты па гэтай тэматыцы. **Наста Гвоздзева** вядзе ткацкі гурток у Мінску. Яна таксама працавала з «колаўцамі». Калі гаворка заходзіць пра ткацтва, то яна спецыяліст па тэме.

Гэтым летам клуб больш не плануе ладзіць экспедыцыю. Аднак «колаўцы» дакладна збіраюцца ў маленькія вылазкі, якія рабілі раней на прыкладзе самастойных экспедыцый у вёскі Вілейскага раёна.

Этнаграфічны клуб ладзіць экспедыцыі для таго, каб усю здабытую інфармацыю выкласці ў інтэрнэт і людзі маглі свабодна ёй карыстацца.

– Трэба развіваць культуру, каб беларусы ведалі, што гэта ёсць увогуле. Мне здаецца, што Беларусь такі прывід для людзей, якія тут жывуць. Трэба ведаць сваю культуру і традыцыі, быць бліжэй да гэтага ўсяго, – кажа Шакель.

**Настасся УТКІНА.**

Кантакты этнаграфічнага клуба «Кола»:
менеджар Вольга Трубач, (8-029) 535-31-05;
мастацкі кіраўнік Анастасія Шпілеўская, (8-029) 539-16-57.



Вузельчык з фотаздымкамі Соф'і Аляксандраўны Аноп з вёскі Якавічы.

## Маладзечанскія хакеісты прыступілі да трэніровак на лёдзе

27 чэрвеня хакеісты «Дынама-Маладзечна» прыступілі да першых трэніровак на лёдзе. У спартсменаў пачалася падрыхтоўка да новага сезона. У сезоне-2018/19 хакейны клуб з Маладзечна заняў чацвертае месца ў экстралізе А.

## «Смаргонь» зноў без перамог

На мінулых выхадных у рамках першай лігі «Смаргонь» сустрэлася са «Слонімам-2017». Матч пачаўся з пенальці, якое выканаў гулец смаргонскай каманды **Уладзімір Казко**. У сярэдзіне гульні футбалісты «Слоніма» **Артур Цішко** і **Вадзім Спасюк** вывелі сваю каманду наперад. **Дзяніс Гружэўскі** зраўняў лік. Гулец смаргонскага калектыву забіў гол у дададзены час. Гульня завяршылася з лікам 2:2, адзначыўшы яшчэ адзін тур без перамог для каманды з Павілля. «Смаргонь» знаходзіцца на перадапошнім месцы турнірнай табліцы.

## У камандаў Павілля перамогі ў другой лізе

### «Энергетык-БДАТУ» 0:3 «Андэрдог»

**Павел Богуш** адзначыўся дублем, а **Сяргей Новік** зрабіў лік яшчэ больш недасягальным для сапернікаў з Мінска. У «Энергетыка» не атрымалася забіць ніводнага гола за ўвесь матч. Чысцінская каманда знаходзіцца на сёмым месцы.

### «Клецк» 0:4 «Ашмяны-БДУФК»

«Ашмяны» вяртаюцца дадому з перамогай з Клецка. Аўтарамі галоў сталі **Дзмітры Вялісевіч**, які рэалізаваў спробу ў першым тайме. **Ілля Цюніс**, зноў Дмітры Вялісевіч і **Дзмітры Купнеўскі** забілі тры мячы за дзесяць хвілін да канца гульні. Ашмянская каманда дзявяты тур ідзе без паражэнняў і займае другое месца ў турнірнай табліцы.

### «Маладзечна» 3:0 «Асіповічы»

«Маладзечна» перамагае ў зялёна-белым дэрбі. Заўзятары дачакаліся галоў толькі напрыканцы гульні. Аўтарамі рэзультатыўных атак сталі **Арцём Грыб**, **Андрэй Емяльянаў** і **Нікіта Дудо**. «Маладзечна» ўтрымлівае чацверты радок.

**Аддзел інфармацыі.**

## Беларускія баскетбалісткі правялі два матчы ў Маладзечне

30 чэрвеня і 1 ліпеня жаночая моладзевая зборная гуляла з саперніцамі з Чэхіі. Беларускі прайгралі абодва матчы з вялікай перавагай: 49:83, 46:72. Моладзевая зборная рыхтуецца да чэмпіянату Еўропы, які адбудзецца 3-11 жніўня ў Чэхіі.

На другой гульні прысутнічала экс-баскетбалістка нацыянальнай зборнай Беларусі **Марына Крэс**. «Рэгіянальная газета» ўзяла ў яе каментар:

– Зараз пра нешта меркаваць ці казаць цяжка. Наколькі я ведаю, увесь гэты час у каманды быў зроблены акцэнт трэніровачнага працэсу на фізічную падрыхтоўку. Гэта іх першыя гульні, а чэшкі, дарэчы, ужо на другі турнір з'ездзілі. Лідараў нашай зборнай не было ў гэтых спарынгах. Станоўчыя моманты ёсць. На лік гульняў не варта глядзець з негатывам.

**Настасся УТКІНА.**

## Ашмянскія валейбалісты занялі прызавыя месцы на міжнародным турніры

Нарачанскі турнір па валейболе быў прысвечаны Дню Незалежнасці. Яго правялі ўжо ў адзінаццаты раз. Гадовы турнір сабраў спартсменаў Беларусі, Латвіі і Расіі. У спаборніцтвах удзельнічала 13 ветэранскіх камандаў.

Ашмянская жаночая валейбольная каманда ва ўзросце 35+ заняла першае месца. Акрамя жаночай каманды ў спаборніцтвах удзельнічаў і мужчынскі ветэранскі калектыў ва ўзросце 50+. У валейбольных паядынках мужчынская каманда заваявала другое месца.

**Паводле osh.by.**

## Беларускія атлеты выступяць на летняй Універсіядзе

Беларускія атлеты выступяць у васьмі відах спорту на 30-й Сусветнай летняй універсіядзе. Студэнцкія спаборніцтвы пройдуць 3-14 ліпеня ў Неапалі. Усяго ў Італіі выступяць 43 беларускія студэнты-спартсмены. Яны паспрабуюць заваяваць медалі ў лёгкай атлетыцы, мастацкай гімнастыцы, дзюдо, тэнісе, плаванні, спартыўнай гімнастыцы, фехтаванні і таэквандо.

**Паводле БелТА.**



Фота minsknews.by.

Дзмітры Асанаў з залатым медалём Еўрагульняў.

# Маладзечанскі баксёр Дзмітры Асанаў выйграў золата Еўрапейскіх гульняў

**Асанаў – трэці баксёр у гісторыі краіны, які перамог на чэмпіянаце Еўропы.**



Фота reuters.com.

Дзмітры Асанаў (справа) падчас фінальнага паядынку з расійскім баксёрам Габілам Мамедавым.

Сёлета Еўрапейскія гульні сумешчаныя з чэмпіянатам Еўропы.

У фінальным паядынку вагавой катэгорыі да 60 кг 23-гадовы **Дзмітры Асанаў** атрымаў перамогу над 26-гадовым расійскім баксёрам **Габілам Мамедавым.**

З пяці суддзяў чацвёра аддалі перамогу беларусу (4:1).

Бронзавымі медалістамі сталі **Атар Эранасян** з Грузіі і **Карэн Танаканян** з Арменіі.

Дзмітры Асанаў стаў таксама пераможцам чэмпіянату Еўропы, які ў гэтым годзе быў сумешчаны з Еўрапейскімі гульнямі.

### «Кожны дзень са слязамі сыходзілі з залы»

– Калі суддзя падняў руку, мая першая думка – уся праведзеная праца, увесь шлях, які мы прайшлі з трэнерам і бацькам, усё недарма. Ацэньваючы важнасць гэтага турніру, мы рыхтаваліся нават не на сто працэнтаў, а на ўсе дзвесце. Кожны дзень, нават і са слязамі, сыходзілі з залы. Але гэта не прайшло дарма, і мы атрымалі той вынік, які атрымалі, – расказаў Дзмітры прэс-службе Нацыянальнага алімпійскага камітэта.

Па словах баксёра, у ходзе фінальнага паядынку прыйшлося мяняць тактыку, не лавіць на памылках саперніка, а рабіць акцэнты на перамяшчэнні і хуткасці джэба левай рукі. Маладзечанец адзначыў, што як толькі стала вядома, што Мінск прыме Еўрапейскія гульні, ён жыў гэтым днём і фіналам. Хацеў даказаць, што сярэбраны медаль у Баку, дзе праводзілі I Еўрагульні, быў не выпадковасцю.

### Дамашнія трыбуны дапамагалі

– Я да апошняга не быў упэўнены, што стану пераможцам турніру. Вельмі хацеў выйграць, дамашнія трыбуны дапамагалі, падтрымлівалі, але і накладвалі дадатковую адказнасць. Уся цяжкая праца ўжо праведзеная, а яе вынік вісіць у мяне на шыі. Родныя сцены робяць цуды. Асанаў адзначыў, што на дамашнім форуме хацеў зрабіць на ўсе сто і не падвесці.

Раней толькі два баксёры з Беларусі ў суверэннай гісторыі краіны станавіліся чэмпіёнамі Еўропы. У 2002 годзе ў Пермі золата заваяваў **Хаважы Хацыгаў** (да 54 кг), а ў 2008-м у Ліверпулі тытул выйграў **Магамед Нурудзінаў** (да 69 кг).

**Паводле Tut.by.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Трыкатажнае адзенне, якое шчыльна аблягае цела і выкарыстоўваецца як тэатральны або спартыўны касцюм.
2. Пэўная доля цэлага.
5. Здольны добра ўспрымаць слыхам, нюхам.
7. Сігнал трывогі з выпадку бедства, які падаецца пры дапамозе звона.
8. Расліна, чароўная кветка якой расцвітае толькі на Купалле.
9. Пералік лічбавых дадзеных або звестак, размешчаных у пэўным парадку па графах.
11. Парушэнне правілаў у баскетболе.
12. Пэўны парадак, паслядоўнасць у адбыванні.
13. Імя жонкі Янкі Купалы.
16. Якісьці невядомы чалавек.
17. Дугападобная палоска валасоў над вачамі.
19. Крэпасць на Урале, дзе падчас ссылкі Ян Чачот перакладаў Вашынгтона Ірвінга.
21. Тое, што павінна пераканаць у праваце.
22. Што робіць сонца толькі ў купальскую ноч.
23. Які мае магічную сілу.
25. Пастава цела пад вуглом паміж гарызантальнай і вертыкальнай плоскасцю.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Тонкі кусок дрэва, адчасаны ад бервяна, палена.
2. Які належыць іншаму.
3. Сістэма ведаў аб заканамернасцях развіцця прыроды, грамадства, мыслення і спосабах уздзеяння на навакольны свет.
4. Рашучы, энергічны, смелы.
6. Спартыўныя спаборніцтвы, у якіх лыжная гонка спалучаецца са стральбой з вінтоўкі на некалькіх агнявых рубяжах.
10. Цунамі зносяць усё на сваім шляху, разбураюць дамы і вырываюць дрэвы з каранямі. Але гэтыя дрэвы дзякуючы разгалінаванай каранёвай сістэме і гнуткаму стрыжню могуць вытрымаць навалу.
14. Месца зняволення, будынак, дзе ўтрымліваюцца асобы, якія прыгавораныя судом да пазбаўлення волі.
15. Гук, які ўтвараецца металічнымі прадметамі пры ўдары адзін аб другі.
17. Ліст паперы з друкаваным загалоўкам установы, прадпрыемства або з часткова надрукаваным тэкстам, астатняя частка якога запаўняецца пры неабходнасці.
18. Альберт Эйнштэйн дазволіў пасля смерці даследаваць гэту частку сябе. Але паталагаанатам, што праводзіў ускрыццё, скраў яго.
20. Настаўнік Платона.
24. Мясцовасць, якая прылягае, прымыкае.

## Адказы на крыжаванку з №26

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Выпадак. 3. Сінгапур. 6. Півоні. 8. Дзверы. 9. Валацуга. 10. Прас. 12. Аўтобус. 13. Лімон. 14. Удар. 16. Узор. 18. Важак. 20. Дуалізм. 22. Тратуар. 25. Веліч.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Васіліск. 4. Хакей. 5. Дужка. 7. Доктар. 11. Ляўша. 13. Люстра. 15. Магніт. 16. Умець. 17. Дыба. 19. Металіка. 21. Кальварыя. 23. Дамейка. 24. Лупіна. 26. Лялька.

## ● ГАРАСКОП 5-11 ЛІПЕНЯ



**АВЕН.** Лета ў разгары, і вам нарэшце пашанцуе скарыстацца магчымасцямі сезона напоўніцу. Якім бы ні было надвор'е, галоўнае, каб вы маглі даць час самім сабе на адпачынак.



**ЦЯЛЕЦ.** Усё ў жыцці цыклічна, і папярэдні перыяд для вас таксама закончыўся. Эйфарыя ад ранейшых поспехаў паціху сціхае. Надышоў час разважлівага распараджэння набытым.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вы вядомыя ў сваім коле як адметныя людзі, да якіх заўсёды цягнуцца іншыя. З вамі хочацца размаўляць і дзяліцца тайнамі. Часам гэта ўсё, што трэба для ўдалага баўлення часу. Не заўсёды ад вас чакаюць вырашэння праблем ці глыбокай мудрасці. Часцей за ўсё блізкія хочуць проста правесці час разам.



**РАК.** Для вас надышоў перыяд падсумавання вынікаў за год. Прааналізуйце, што зрабілі, а што не атрымалася. Сплануйце свой асабісты план на наступны год. І няхай усё выконваецца па чарзе.



**ЛЕЎ.** Для вас надышоў час уздыму рамантычнасці. Але важны момант – вы павінны не чакаць, пакуль яе ствараць іншыя, а зладзіць самастойна. Папесціце кахандага чалавека і паглядзіце, што чакае вас у адказ.



**ДЗЕВА.** Цяпер час інтэнсіўнай працы. Пагрузіцеся ў справы з галавой, выканайце ўсё, што важна, не шкадуючы сябе. Праз тыдзень вы самі здзівіцеся, як шмат вы можаце зрабіць.



**ШАЛІ.** Часам іншых варта не крытыкаваць, а дапамагаць ім. Калегі, блізкія і родныя могуць рабіць памылкі таму, што не ведаюць, як выканаць задачу лепш. Падкажыце, і ў іншы раз падкажуць вам.



**СКАРПІЁН.** Самы час надаць увагу спартыўнай форме. Часцей гуляйце пешшу, выконвайце практыкаванні, якія падыходзяць менавіта вам. Гэта карысна і для цела, і для псіхічнага стану.



**СТРАЛЕЦ.** Вашы мары рызыкуюць спраўдзіцца ў самым хуткім часе. Не замыкайце дзверы перад чаканымі гасцямі.



**КАЗЯРОГ.** Вам проста неабходна на гэтым тыдні наладзіць вечар сяброў. Запрасіце блізкіх, адпачніце, паразмаўляйце.



**ВАДАЛЕЙ.** На гэтым тыдні вас чакаюць прыемныя сюрпрызы. Гэта тое, пра што вы даўно думалі.



**РЫБЫ.** Часам у жыцці не хапае свята. Але хто замінае зрабіць свята для саміх сябе? Менавіта гэта вам раяць зоркі.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 8 | | | | | 6 | | 7 |
| | | | | 2 | | 5 | | 4 |
| | 6 | | 4 | 7 | | | | 3 |
| | | 8 | | | | | | 5 |
| 4 | 9 | 5 | | | | | | 6 |
| | 1 | 3 | | | | | | 2 |
| | | 1 | 7 | 9 | 3 | | | |
| 3 | 4 | | 8 | 6 | | | | |
| | | | | 1 | | | | 9 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017


● ПТУШКА НА ХВАСЦЕ ПРЫНЕСЛА

Тры гады ў Польшчы прывучылі мяне сто разоў падумаць перад тым, як ужываць слова «бронь». Па-польску «broń» – гэта зброя. Пару разоў я казала ў польскіх атэлях і аўтобусах, што ў мяне бронь, і наступствы былі ці надта смешныя, ці, наадварот, надта нясмешныя. І я навучылася казаць польскае «rezerwacja». А «бронь» – у чорным спісе маёй падсвядомасці.

Сядаю ў беларускую маршрутку з вывучаным да мозга касцей «у мяне рэзервацыя».

Кіроўца моўчкі абводзіць мяне з ног да галавы доўгім, разумным позіркам і пытаецца:

– Резервация? У вас которая? Индейская или аборигенов Австралии?..



# Каханне і любоў

## Або яшчэ раз пра мову...

**У кожнага чалавека ў сэрцы родная краіна. Не абавязкова ўся. Нейкі маленькі яе кавалачак, але ён ёсць: родны горад, вёска, месца, гісторыя, мова... Асабліва мова. Але няшмат ёсць тых, хто яе шануе.**

Некаторыя вучоныя лічаць, што праз некалькі дзесяткаў год створаць адзіную мову для ўсёй планеты. Але як яе створаць? Можа, возьмуць патроху слоў з кожнай мовы?

Ніхто не ведае. Але, што датычыцца беларускай мовы, ёсць шмат слоў, якія нельга было б не ўключыць у гэту новую мову.

Па-першае, само слова мова. Не «язык», як па-руску. У беларускай мове язык – гэта частка чалавека, якой ён размаўляе. А не тыя словы, што ён гаворыць.

Ці ж гэта не цудоўна, што ў нашай мове існуюць два словы, якія перакладаюцца на рускую мову аднолькава: каханне і любоў. Здавалася б, адное і тое ж. Навошта два словы? Але ў нашай мове любіць можна дрэва, лялек, фотаздымкі. А каханне – гэта інтымнае пачуццё да іншага чалавека.

Калі казаць пра краіну, ёсць мінімум тры словы, якімі можна яе назваць: Радзіма, Айчына, Бацькаўшчына.

Шмат чаго можна сказаць пра ветлівыя беларускія словы: «Калі ласка!», «Дзякуй!» і іншыя.

Але наша мова гіне, калі мы на ёй не размаўляем. Гэтак жа, як і лялька, калі з ёй ніхто не гуляе.

Так, сёння не Дзень роднай мовы. Але казаць ветэранам «Дзякуй!» можна не толькі 9 мая, і «Я цябе кахаю» не толькі 14 лютага. Гэтак жа і пра мову.

Пра яе захаванне душа павінна балець кожны дзень. Мова – гэта тое, што вылучае нас сярод іншых народаў планеты. Калі яе не будзе зусім, якія ж мы тады беларусы?

**Паліна ГАРДЗЕВІЧ,**
**вілейская гімназія №1 «Логас».**

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Што вам не падабаецца ў Маладзечне?



**Дзмітры Лапкоўскі, рабочы:**

– Няма працоўных месцаў, моладзі няма дзе бавіць вольны час, няма добрых спартыўных пляцовак і ўвогуле адносіны да спорту на самым нізкім узроўні. У прынцыпе, горад сімпатычны, але больш з яго ўзяць няма чаго. Магчыма, я не маю рацыі, у Маладзечне цяпер не жыву.



**Зоя Капуцкая, прадавец:**

– Вельмі добрае меркаванне аб нашым горадзе. Падабаецца чысціня, парадак. І вельмі падабаецца, што шмат кветак, бо я гэта вельмі люблю, у мяне і каля дома кветнікі! Мінус толькі грамадскаму транспарту. Часам даводзіцца доўга чакаць.



**Алена Ляхновіч, аператар ЭВМ:**

– Скажу па сваім раёне. На Петруся Броўкі ўсё цяжка з транспартам. А яшчэ няма транспарту каля мясакамбіната, а ён сапраўды патрэбны. І ў нас мала прадуктовых крам у раёне.



**Вера Вялічка, пенсіянерка:**

– Кампактны горад, але няручны транспарт. Ён ходзіць з вялікімі перапынкамі, бывае па гадзіне. Людзі прыязджаюць з вёсак, а потым вельмі праблемна з'ехаць з горада. Трэба наладзіць расклад транспарту абавязкова.



**Андрэй Кулаковіч, рабочы:**

– У Маладзечне мала куды схадзіць моладзі. З грамадскім транспартам крытычная сітуацыя. А ў прынцыпе ўсё добра.



**Міхаіл Міцько, пенсіянер:**

– Для мяне галоўная праблемная тэма, таму што я аўтамабіліст, дарогі ў дварах. Яны ў нас дрэнныя.



**Андрэй і Любоў Корсакі, беспрацоўныя:**

– Нас усё задавальняе. І для моладзі створаны ўсе ўмовы.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**


**Апытанне па тэме «Што вам падабаецца ў Маладзечне?» вы маглі прачытаць у мінулым нумары «РГ».**


## Чытайце праз тыдзень

● **У купальскія выхадныя ў Маладзечне збяруцца краязнаўцы, журналісты і музейныя работнікі. Будуць гутарыць пра тое, як пісаць бамбічныя артыкулы на краязнаўчую тэматыку і як ускалыхнуць імі аўдыторыю.**

## 6 ліпеня, субота

**Вецер:** заходні, 6-8 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я.** АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература +5,7°С у 1992 годзе
Максімальная тэмпература +31,5°С у 1999 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 28,8 мм у 1978 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Кроч у лета з «Рэгіянальнай газетай»!



### Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-пляцажоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 50 капеек;
- на тры месяцы – 13 рублёў 50 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 13 рублёў 50 капеек;
- на тры месяцы – 40 рублёў 50 капеек.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№27 (1262) 5.07.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 992. Падпісана ў друк у 9.00 4.07.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.